Ostrogorski Centre BelarusDigest



# Нефармальная адукацыя ў Беларусі: пашырэнне прасторы навучання

Яраслаў Крывой
Вадзім Смок

Аналітычны дакумент 6 | 28 верасня 2016

Фота: eclab.by, fly-uni.org

Мінск-Лондан
2016

# Змест

# Словы падзякі

Аўтары хацелі б падзякаваць Эйлін Кенэдзі (Eileen Kennedy) з Інстытута адукацыі Універсітэцкага коледжа Лондана і Андрэю Казакевічу з Інстытута “Палітычная сфера” за іх падрабязныя каментары да ранейшых версій даследавання.

Аўтары таксама выказваюць падзяку асобам, якія дапамагалі ў напісанні гэтай працы сваімі ідэямі і крытычнымі заўвагамі, у тым ліку дырэктару Беларускага Калегіума Ірыне Дубянецкай, каардынатару Лятучага ўніверсітэта Таццяне Вадалажскай і каардынатару Еўрапейскага каледжа Liberal Arts у Беларусі (ECLAB) Вользе Шпаразе, а таксама студэнтам згаданых адукацыйных працэктаў.

Даследаванне выканана пры падтрымцы фонду Mott і рэалізаванае Цэнтрам Астрагорскага сумесна з Фондам Pontis.

# Рэзюмэ


- Кіраўніцтва Беларусі доўгі час разглядала сістэму нефармальнай адукацыі як пагрозу існуючаму аўтарытарнаму палітычнаму рэжыму і імкнулася абмежаваць сферу яе дзейнасці. У краінах з развітым дэмакратычным ладам фармальная і нефармальная адукацыі дапаўняюць адна адну, тым часам як у Беларусі яны нават часам супрацьстаяць адна адной.

- Улады замацавалі сістэму ідэалагічнага кантролю над універсітэцкімі дысцыплінамі, асабліва што тычыцца інтэрпрэтацыі палітычных падзей. У такой сітуацыі распаўсюджванне ведаў без дагматычнага падыходу і палітычнага ўмяшальніцтва стала асноўнай задачай для арганізацый нефармальнай адукацыі ў Беларусі.

- У пытанні фармавання нацыянальнай ідэнтычнасці кіраўніцтва Беларусі у вялікай ступені працягвае абапірацца на савецкую спадчыну і не аддае належнай увагі нацыянальнай свядомасці і еўрапейскаму аспекту ідэнтычнасці. Таму нефармальныя адукацыйныя праекты імкнуцца ўзмацніць гэтыя аспекты. Задачай шэрагу нефармальных адукацыйных арганізацый у Беларусі з’яўляецца павелічэнне колькасці людзей з дэмакратычнымі поглядамі і актыўнай грамадзянскай пазіцыяй.

- Многія праекты ў сферы нефармальнай адукацыі абмежаваныя недахопам альтэрнатыўных сродкаў фінансавання. Пошук фінансавання для нефармальных адукацыйных ініцыятыў унутры краіны застаецца няпростай задачай. Гэта абумовіла амаль поўную залежнасць нефармальнай адукацыі ад замежных донараў. Апроч таго, за апошнія гады аб’ём фінансавай падтрымкі беларускай нефармальнай адукацыі скараціўся.

- Каб павялічыць прывабнасць беларускай нефармальнай адукацыі і наблізіць яе да палітычных і эканамічных рэалій Беларусі, праекты ў гэтай сферы мусяць быць накіраваныя на развіццё асабістых навыкаў, запатрабаваных на рынку працы, у тым ліку прадпрымальніцкіх і творчых здольнасцяў, навыкаў планавання і ажыццяўлення праектаў.

- Нефармальная адукацыя павінна выкарыстоўваць новыя бізнэс-мадэлі для паляпшэння свайго фінансавага становішча. Для гэтага неабходныя эфектыўныя брэндавыя і рэкламныя стратэгіі, арыентацыя на практычныя веды і ўменне прэзентаваць і прадаць свае прапановы.

- Прызнанне нефармальнай адукацыі беларускімі ўладамі ці вышэйшымі навучальнымі ўстановамі ў Беларусі па палітычных прычынах будзе ў бліжэйшай будучыні складанай задачай, таму варта вывучаць магчымасці прызнання яе замежнымі адукацыйнымі інстытутамі.

- Беларусь з’яўляецца адным з цэнтраў Еўропы ў галіне афшорнага праграмавання, і гэта адна з прычынаў, чаму сектар нефармальнай адукацыі мусіць імкнуцца ў большай ступені задзейнічаць сучасныя тэхналогіі для павелічэння сферы іх распаўсюджання і ўплыву, у прыватнасці праз выкарыстанне дыстанцыйнага навучання.

# Уводзіны

Адной з асноўных перавагаў Беларусі ў параўнанні з краінамі падобнага ўзроўню эканамічнага развіцця з'яўляецца агульны доступ да вышэйшай адукацыі, што ёсць дасягненнем амаль выключна савецкай спадчыны, а не беларускіх уладаў.[1] У адрозненне ад афіцыйнай вышэйшай адукацыі, якая фінансуецца дзяржавай, сектар нефармальнай адукацыі ў Беларусі вымушаны працаваць у неспрыяльных палітычных умовах і залежыць ад фінансавання заходніх донараў. Пры гэтым ахоп аўдыторыі нефармальнай адукацыі застаецца даволі абмежаваным. У гэтым асаблівасць сітуацыі ў Беларусі ў параўнанні з іншымі еўрапейскімі краінамі, дзе грамадзянская супольнасць выступае партнёрам дзяржавы ў ажыццяўленні паслуг і падтрымцы ўстойлівага развіцця супольнасцяў.

Паводле ЮНЕСКА, нефармальная адукацыя з'яўляецца афіцыйна аформленай, мэтанакіраванай і планавай дзейнасцю пастаўшчыка адукацыі.[2] Яе галоўнай задачай з'яўляецца дапаўненне фармальнай адукацыі ў межах адукацыі на працягу ўсяго жыцця (lifelong learning).[3] Нефармальная адукацыя не прадугледжвае абавязковай бесперапыннай актыўнасці і звычайна мае форму воркшопаў, семінараў ці кароткіх курсаў. У большасці выпадкаў гэта не вядзе да фармальнага прызнання адукацыі, але часам кваліфікацыі, атрыманыя на праграмах нефармальнай адукацыі, могуць быць фармальна прызнаныя і дапаўняюць навыкі, атрыманыя ў іншым кантэксце.[4]

> Сектар нефармальнай адукацыі ў Беларусі вымушаны працаваць у неспрыяльных палітычных умовах і залежыць ад фінансавання заходніх донараў

У сферы нефармальнай адукацыі ў Беларусі можна вылучыць чатыры групы: нефармальная адукацыя ў трэцім сектары, бізнэс-адукацыя, канфесійная адукацыя і дадатковая адукацыя ў дзяржаўным сектары.[5] У краінах з развітым дэмакратычным ладам фармальная і нефармальная адукацыі ўзаемадапаўняюць адна адну, тым часам як у Беларусі яны часцей супрацьстаяць адна адной.[6] Фармальная адукацыя ў Беларусі кантралюецца дзяржавай і з'яўляецца яе часткай. З іншага боку, нефармальная адукацыя выступае складнікам грамадзянскай супольнасці. Для разумення стану і перспектываў нефармальнай адукацыі важна зразумець стан грамадзянскай супольнасці ў Беларусі, а таксама яе ўзаемадзеяння з дзяржавай.[7]

У канцы 2015 і ў 2016 годзе недзяржаўныя арганізацыі ў Беларусі адзначалі агульнае паляпшэнне ўмоваў для існавання грамадзянскай супольнасці і забеспячэння правоў чалавека ў Беларусі. Тым не менш, гэтыя ўмовы застаюцца ў значнай ступені неспрыяльнымі. Арганізацыі грамадзянскай супольнасці сутыкаюцца з вялікімі цяжкасцямі пры рэгістрацыі юрыдычных асобаў. Больш за сто арганізацый грамадзянскай супольнасці зарэгістраваныя за мяжой у сувязі з юрыдычнымі і бюракратычнымі перашкодамі для рэгістрацыі ўнутры краіны.[8]

---

1 Charnysh, Volha, 'Social Progress In Belarus: Self-Perception Versus Reality', *Belarus Digest*, 9 April 2015, <http://belarusdigest.com/story/social-progress-belarus-self-perception-versus-reality-22278> [accessed 16 March 2016].

2 UNESCO Institute for Statistics (UIS) <http://glossary.uis.unesco.org/glossary> [accessed 16 June 2016].

3 Schneider, Silke L., 2013. 'The International Standard Classification of Education 2011', in Gunn Elisabeth Birkelund (ed.) *Class and Stratification Analysis* (Comparative Social Research, Volume 30), Emerald Group Publishing Limited, pp. 365-379.

4 Ibid.

5 Пошевалова, Татьяна, 2009. "Неформальное образование в Беларуси: ресурс для развития личности и общества", *Адукатар*, № 15, С. 14-16.

6 Мацкевич, Владимир, Мацкевич, Светлана и Водолажская, Татьяна, 2006. "Подходы к стандартам и стандартизации в неформальном образовании", *Адукатар*, № 3(№ 9), 2006. С. 16.

7 Ibid, c.17.

8 Freedom House, 2016. 'Nations in Transit 2015', <https://freedomhouse.org/report/nations-transit/2016/belarus> [accessed 17 May 2016].

Галоўнай мэтай гэтага даследавання з’яўляецца фармулёўка рэкамендацый для павышэння эфектыўнасці нефармальнай адукацыі ў Беларусі. Для напісання працы аўтары правялі шэраг інтэрв’ю з выкладчыкамі і студэнтамі ў сферы нефармальнай адукацыі ў Беларусі, а таксама вывучылі літаратуру па стане, мэтах і тэндэнцыях нефармальнай адукацыі ў Беларусі. Дадзеная праца змяшчае рэкамендацыі для ўстаноў нефармальнай адукацыі і донарскіх арганізацый, што іх фінансуюць, а таксама для дзяржаўных адукацыйных установаў, якія могуць атрымаць карысць ад супрацоўніцтва з сектарам нефармальнай адукацыі.

На пачатку 1990-х гадоў многія людзі апынуліся без ведаў і навыкаў, неабходных для жыцця ва ўмовах рынкавай эканомікі і палітычнага плюралізму

Каб зразумець, як рэалізуецца нефармальная адукацыя ў беларускім кантэксце, у красавіку-маі 2016 года аўтары апыталі кіраўнікоў трох найбуйнейшых адукацыйных праектаў, якія прапануюць нефармальныя акадэмічныя праграмы: Беларускі Калегіум, Лятучы ўніверсітэт і Еўрапейскі каледж Liberal Arts у Беларусі (ECLAB). Таксама праводзілася апытанне ў трох фокус-групах са студэнтамі дадзеных праектаў. Агулам былі апытаныя 17 студэнтаў.

Праца пачынаецца з кароткага агляду гісторыі нефармальнай адукацыі ў Беларусі. Другая частка змяшчае аналіз арганізацый у гэтай сферы, а таксама асноўныя мэты нефармальнай адукацыі ў Беларусі, якія ўключаюць фармаванне беларускай і еўрапейскай ідэнтычнасці, дэмакратызацыю і набыццё практычных ведаў. Далей абмяркоўваюцца асноўныя праблемы пры рэалізацыі нефармальнай адукацыі ў Беларусі, у тым ліку неспрыяльныя палітычныя ўмовы, празмерная залежнасць ад заходніх донарскіх арганізацый і абмежаваная сфера распаўсюджання нефармальнай адукацыі.

У заключнай частцы прыведзеныя рэкамендацыі для павышэння эфектыўнасці нефармальнай адукацыі ў Беларусі на аснове развіцця міжсектаральнага супрацоўніцтва, збліжэння нефармальнай і фармальнай адукацый, а таксама пашыранага выкарыстання сучасных тэхналогій.

# 1. Гісторыя нефармальнай адукацыі ў Беларусі

Развіццё ініцыятыў нефармальнай адукацыі ў Беларусі было натхнёнае гістарычнымі прыкладамі, такімі як Таварыства філаматаў, заснаванае ў 1817 годзе студэнтамі Віленскага ўніверсітэта. Удзельнікі таварыства пазней сталі выбітнымі грамадскімі дзеячамі (напрыклад, Адам Міцкевіч, Ян Чачот і Ігнат Дамейка).[9] Іх дзеянні былі накіраваныя на фармаванне сістэмы адукацыі для дарослых, якая забяспечыла б вызваленне Беларусі з-пад уплыву царскай Расіі.

У савецкія часы ўлады арганізоўвалі дзейнасць нефармальнай адукацыі праз Таварыствы ведаў (*Общества знаний*), а таксама праз арганізацыі наймальнікаў і прафсаюзныя арганізацыі. У тыя часы нефармальная адукацыя строга кантралявалася дзяржавай і знаходзілася пад значным уплывам афіцыйнай ідэалогіі. На пачатку 1990-х гадоў, калі разам з Савецкім Саюзам знікла старая ідэалогія, многія людзі апынуліся без ведаў і навыкаў, неабходных для жыцця ва ўмовах рынкавай эканомікі і палітычнага плюралізму. Менавіта ў гэты час пачалі дзейнічаць установы нефармальнай адукацыі.

У 1990-я гг. адной з найбольш адметных ініцыятыў у сферы нефармальнай адукацыі ў Беларусі стаў Народны ўніверсітэт. Ён нагадваў польскі Лятучы ўні-

[9] Чернов, Виктор, 2004. “Система гражданского образования в третьем секторе Беларуси”, *Адукатар,*№ 1, с.8.

версітэт, што дзейнічаў у Польшчы ў 1970-я гады. Народны ўніверсітэт не меў аўдыторый для заняткаў, і яго выкладчыкі наведвалі розныя рэгіёны Беларусі для правядзення лекцый. Кожны выкладчык самастойна вызначаў для сябе змест лекцый, кіруючыся адзіным патрабаваннем – падрыхтаваць для студэнтаў цікавыя лекцыі. Пры гэтым не было абавязковых прадметаў ці метадычных навучальных дапаможнікаў.

У адрозненне ад польскага Лятучага ўніверсітэта Народны ўніверсітэт меў сістэму адзначэння прысутнасці, наведвальнікі здавалі тэсты і атрымоўвалі сертыфікаты за добрае наведванне і паспяховае навучанне.[10] Болей за 1500 чалавек навучаліся ў 31 беларускім горадзе.[11] Нягледзячы на гэта, ініцыятыва Народнага ўніверсітэта не была падтрыманая беларускім урадам у межах Праграмы тэхнічнага супрацоўніцтва TACIS Еўрапейскага саюза і паступова заняпала.[12]



Пяты Фестываль нефармальнай адукацыі ў Мінску.
Фота: adukatar.net

На пачатку 1990-х гадоў беларускія НДА адчувалі недахоп фінансавых і інтэлектуальных рэсурсаў і актыўна наладжвалі сувязі з падобнымі арганізацыямі за мяжой.[13] Развіццё рынкавай эканомікі і распад камуністычнай сістэмы прывялі да большай зацікаўленасці ў практычных ведах, чым у вывучэнні прынцыпаў дэмакратыі.

Як і ў 1990-я гады, многія арганізацыі нефармальнай адукацыі дагэтуль у значнай ступені засяроджваюць сваю дзейнасць на пашырэнні ведаў пра дэмакратыю, нацыянальную свядомасць і станаўленне нацыі, а не на забеспячэнні грамадзянаў практычнымі ведамі.[14] Такі акцэнт на вывучэнні дэмакратыі быў абумоўлены прыярытэтамі донарскіх арганізацый, а таксама недахопам альтэрнатыўных сродкаў фінансавання.

Да 1996–1997 гадоў знешнія донары не гралі значнай ролі ў нефармальным адукацыйным сектары, бо свабоднае палітычнае асяроддзе дазваляла мець прыватнае фінансаванне і нават дзяржаўную падтрымку падобных ініцыятыў. Аднак па меры ўсталявання аўтарытарнага рэжыму ўнутранае фінансаванне і, зразумела, падтрымка з боку дзяржавы сталі фактычна немагчымымі. Праекты нефармальнай адукацыі былі вымушаныя звярнуцца да знешніх крыніцаў фінансавання, якія зазвычай аддавалі болей увагі дэмакратызацыі і правам чалавека за кошт іншых прыярытэтаў. Гэта адна з асноўных прычынаў, па якой нефармальная адукацыя засяроджаная пераважна на правах чалавека, самакіраванні, нацыянальнай культуры, гісторыі і дэмакратызацыі.

За апошнія 20 гадоў дзяржаўная палітыка ў сферы адукацыі зведала некаторыя перамены. У перыяд з 1991 да 1994 года адукацыйная сістэма пераходзіла ад савецкай мадэлі да забеспячэння патрэбаў незалежнай беларускай дзяржавы. Узнікалі спробы спрыяць развіццю крытычнага мыслення, узмацненню нацыянальнай ідэнтычнасці, а таксама звярнуцца да практычных патрэбаў, неабходных для выжывання і паспяховага існавання ва ўмовах рынкавай эканомікі.[15]

---

10 Ibid, c. 9.
11 Ibid.
12 “Адукацыя, навучанне, асвета ў трэцім сектары: стан і перспектывы развіцця”, *Адукатар*, № 1 (4), 2005, с. 3
13 Гл. агулам, Вялічка Улад, 2004. “Нефармальная адукацыя дарослых у беларускім трэцім сектары: асаблівасці развіцця”, *Адукатар,* № 1.
14 Ibid.
15 Мацкевич, Светлана, 2006. “История и актуалии гражданского образования в Беларуси. Прагматика, парадигматика, синтагматика”, *Адукатар*, № 1 (7), с. 9.

У перыяд з 1994 да 1997 года сістэма пачала вяртацца да савецкіх традыцый праз павелічэнне ролі дзяржавы ў вышэйшай адукацыі, спыненне працэссу беларусізацыі і ліквідацыю альбо поўны кантроль прыватных адукацыйных установаў з боку дзяржавы.[16] НДА, задзейнічаныя ў сферы адукацыі, мусілі прайсці працэдуры рэгістрацыі і перарэгістрацыі. Сімвалічным завяршэннем дадзенага перыяду было закрыццё фонду “Адкрытае грамадства” ў 1997 годзе,[17] адной з асноўных донарскіх арганізацый беларускай грамадзянскай супольнасці, пасля прызначэння штрафу памерам 3 мільёны долараў ЗША нібыта за парушэнні ў сферы падаткаў і валютных аперацый.[18]

Пасля 1997 года ўлады пачалі пашыраць патрыятычнае выхаванне і дзяржаўную ідэалогію, каб узмацніць лаяльнасць насельніцтва да ўладаў. Быў заснаваны Беларускі патрыятычны саюз моладзі (з 2002 года – Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі), уведзеныя абавязковыя заняткі па палітычнай інфармацыі і павялічаная ідэалагізацыя адукацыі. Улады сцвярджалі, што патрыятычная і грамадзянская адукацыя ёсць практычна адно і тое ж. У той жа час яны пачалі задзейнічаць больш рынкавых элементаў у сферы адукацыі, пашыралі платнае навучанне і скарачалі колькасць бюджэтных навучальных месцаў.[19] 2007 год стаў сімвалічным зваротам да савецкай сістэмы адукацыі, калі прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка падпісаў новы закон аб вышэйшай адукацыі, які адмяняў палажэнні аб акадэмічных свабодах і аўтаноміі ўніверсітэтаў.[20]

Пасля 1997 года ўлады пачалі пашыраць патрыятычнае выхаванне і дзяржаўную ідэалогію, каб узмацніць лаяльнасць насельніцтва да ўладаў

Сёння дзейнасць арганізацый нефармальнай адукацыі адбываецца ў форме семінараў і лекцый, публічных дыскусій, дыскусійных клубаў, ініцыятываў дыстанцыйнай адукацыі, доктарскіх праграмаў і рэгулярных метадалагічных семінараў.[21] З 2005 года ў Беларусі праводзяцца тыдні нефармальнай адукацыі, якія звычайна ўключаюць семінары, круглыя сталы, выставы і фестывалі.[22] З 2006 года беларускія ўстановы нефармальнай адукацыі арганізоўваюць штогадовыя фестывалі нефармальнай адукацыі. Яны выступаюць адначасова прафесійнымі і нефармальнымі пляцоўкамі для ўзаемадзеяння, абмену вопытам і фармавання агульнай стратэгіі ў сферы нефармальнай адукацыі.[23]

Разам з тым умовы дзейнасці ўстаноў нефармальнай адукацыі ў Беларусі застаюцца неспрыяльнымі. Некаторыя эксперты характарызуюць стан нефармальнай адукацыі як стагнацыю з няўхільным скарачэннем колькасці НДА і спецыялістаў у дадзеным сектары.[24]

---

16 Ibid.

17 Фонд “Адкрытае грамадства” (Open Society Foundations) з’яўляецца сеткай міжнародных грантадаўчых арганізацый з галоўным офісам у Нью-Ёрку, заснаванай бізнэс-магнатам Джорджам Сорасам.

18 ‘Soros Closes Foundation In Belarus’, 4 September 1997, New York Times, <http://www.nytimes.com/1997/09/04/world/soros-closes-foundation-in-belarus.html> [accessed 20 March 2016].

19 Мацкевич, Светлана, 2006. “История и актуалии гражданского образования в Беларуси. Прагматика, парадигматика, синтагматика”, *Адукатар*, № 1(7), с. 9.

20 Дунаев, Владимир, 2015. “Присоединение Беларуси к европейскому пространству высшего образования: есть ли надежда на перемены?”, *Наше мнение*, 18 ноября , <http://nmnby.eu/news/analytics/5929.html> [Дата доступу – 15 мая 2016 г.].

21 Мацкевич, Владимир, 2011. “Университет это шанс прикоснуться к поиску истины”, *Адукатар*, № 20, с. 5.

22 Верамейчык, Галіна, 2010. “Нефармальная адукацыя ў Беларусі”, *Адукатар,* № 18, с. 6.

23 Гісторыя фестывалю нефармальнай адукацыі, <http://adukatar.net/istoriya-festivalya-neformalnogo-obrazovaniya/> [Дата доступу – 08.06.2016].

24 Жураковский, Валерий і другие, 2013. “Анализ сектора Республики Беларусь, субъекты которого занимаются гражданским образованием”, Офис европейской экспертизы и коммуникации, с. 39-40.

# 2. Выклікі для нефармальнай адукацыі ў Беларусі

## 2.1. Неспрыяльныя ўмовы працы

З боку дзяржавы захоўваецца падазронае стаўленне да сектару нефармальнай адукацыі. Як вынік, арганізацыі нефармальнай адукацыі імкнуцца выжыць у неспрыяльных умовах пры адсутнасці падтрымкі дзяржавы, а часам і насуперак створаным перашкодам.[25] Дзяржава часта разглядае нефармальную адукацыю як пагрозу існуючаму аўтарытарнаму палітычнаму рэжыму.[26]

З самага пачатку першага тэрміну прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі ў 1994 годзе многія ініцыятывы нефармальнай адукацыі занялі крытычную пазіцыю да яго рэжыму і часта далучаліся да апазіцыйных палітычных сілаў у змаганні з новым рэжымам. Таму не дзіўна, што ўлады пачалі разглядаць сектар нефармальнай адукацыі як частку палітычнай апазіцыі і ставіліся да яго адпаведна.

Больш за тое, ініцыятывы нефармальнай адукацыі ў рэгіёне часта фінансуюцца тымі ж замежнымі донарамі, якія падтрымлівалі змену палітычнага рэжыму ва Украіне і іншых дзяржавах. Беларускае кіраўніцтва строга абмяжоўвае паступленне замежнай дапамогі і лічыць, што адукацыйныя семінары на аснове замежнага фінансавання могуць паспрыяць “дзеянням, накіраваным на змену канстытуцыйнага ладу ў Рэспубліцы Беларусь, захопу і зрынанню дзяржаўнай улады.[27]

Улады пачалі разглядаць сектар нефармальнай адукацыі як частку палітычнай апазіцыі і ставіліся да яго адпаведна

Адной з прычын неэфектыўнасці грамадзянскай адукацыі ў Беларусі з’яўляецца няроўнасць ініцыятыў нефармальнай адукацыі і афіцыйных адукацыйных установаў на ўзроўні заканадаўства.[28] Сектар нефармальнай адукацыі не можа складаць сур’ёзную канкурэнцыю дзяржаўнай сістэме з-за невялікай колькасці студэнтаў. Дзяржаўныя органы ставяцца да ініцыятыў нефармальнай адукацыі з падазрэннем, нават калі тыя засяроджваюцца на непалітычных тэмах, што ніяк не датычаць дзейнасці ўладаў.[29] У гэтым палягае значнае адрозненне Беларусі ад іншых краінаў, у якіх дзяржаўныя ўлады падтрымліваюць нефармальную адукацыю.[30]

Як адзначылі ў сваіх інтэрв’ю кіраўнікі Беларускага Калегіума, Лятучага ўніверсітэта і каледжа ECLAB, яны не мелі паўнавартаснага супрацоўніцтва з дзяржаўнымі інстытутамі за выключэннем некаторых выпадкаў супрацы з бібліятэкамі і мастацкімі галерэямі. Пры гэтым тая супраца была абцяжараная бюракратычнымі перашкодамі і бояззю працы з НДА. Кіраўнікі не спрабавалі наладзіць супрацоўніцтва з мясцовымі органамі ўлады з прычыны дваццацігадовай рэпрэсіўнай палітыкі ў дачыненні да грамадзянскай супольнасці.

Разам з тым апошнія змены ў беларускай замежнай і ўнутранай палітыцы[31] дазваляюць меркаваць, што беларускія афіцыйныя ўлады могуць змяніць сваё стаўленне да арганізацый грамадзянскай супольнасці, калі справа датычыць агульных інтарэсаў. Напрыклад, у сакавіку 2016 года экспертная канфэрэнцыя

25 Вялічка, Улад, 2004. “Нефармальная адукацыя дарослых у беларускім трэцім сектары: асаблівасці развіцця”, *Адукатар,* №. 1, с. 5-6.
26 Жураковский, Валерий, 2006. “О задачах гражданского образования в Беларуси”, *Адукатар,* №7, с. 5.
27 Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №300 ад 1 ліпеня 2005 г.
28 Мацкевич, Светлана, 2006. “История и актуалии гражданского образования в Беларуси. Прагматика, парадигматика, синтагматика”, Адукатар, № 1 (7), с. 9.
29 Карпиевич, Дмитрий, 2009. “Субъекты неформального образования: ключевые игроки и возможные направления для сотрудничества”, *Адукатар*, № 16, с. 9.
30 Гл., напрыклад, выпадкі краінаў, што развіваюцца ў Mehboob, Dada and others, 2006. *Synergies between formal and non-formal education: an overview of good practices*, UNESCO.
31 Shraibman, Artyom. ‘Belarus Without Sanctions: What Now?, 25 February 2016, <http://belarusdigest.com/story/belarus-without-sanctions-what-now-24741> [accessed 11 May 2016].

па рэгіянальнай бяспецы “Мінскі дыялог” была арганізаваная Цэнтрам Астрагорскага і Ліберальным клубам з удзелам Міністэрства замежных справаў Беларусі.[32]

Яшчэ адным нядаўнім прыкладам стаў Кастрычніцкі эканамічны форум, ініцыяваны даследчым цэнтрам Інстытута прыватызацыі і менеджменту сумесна з Беларускім эканамічным даследча-адукацыйным цэнтрам (BEROC) і даследчым цэнтрам CASE Belarus. У лістападзе 2015 года форум аб’яднаў прадстаўнікоў урада, акадэмічнай супольнасці, аналітычных цэнтраў і міжнародных арганізацый, а таксама міжнародных экспертаў і іншых зацікаўленых бакоў.[33]

Дзяржава магла б атрымліваць значную выгаду ад супрацоўніцтва з сектарам нефармальнай адукацыі. Практычны досвед, які прапануе нефармальная адукацыя, мог бы палегчыць наступствы росту беспрацоўя і павялічыць канкурэнтаздольнасць грамадзянаў на рынку працы. Дзяржава мусіць быць асабліва зацікаўленай у падтрымцы грамадзянскай актыўнасці. Гэта дапамагло б жыхарам краіны пазбавіцца ад спадчыны Савецкага Саюза – патэрналісцкага ладу мыслення і высокага ўзроўню чаканняў адносна таго, што можа і павінна забяспечыць дзяржава. Больш за тое, пачуццё нацыянальнай еднасці і выразнай ідэнтычнасці сапраўды патрэбныя беларускай дзяржаве для стабільнага развіцця. Нефармальная адукацыя магла б адыграць значную ролю ў гэтых працэсах, калі б толькі ўлады прадэманстравалі ёй падтрымку.

## 2.2. Празмерная залежнасць ад заходніх донараў

Важнай праблемай, якую згадалі ўсе тры апытаныя інстытуты, з’яўляецца фінансаванне. Пошук сродкаў унутры Беларусі з’яўляецца надзвычай цяжкай задачай па палітычных прычынах. Тыя, хто задзейнічаныя ў сферы нефармальнай адукацыі, мусяць разлічваць толькі на замежную падтрымку, і з улікам адмоўнага стаўлення ўладаў да замежнай падтрымкі іх дзейнасць часта выглядае непразрыстай.

Да 1996–1997 гадоў знешнія донарскія арганізацыі не гралі значнай ролі ў сектары нефармальнай адукацыі, бо спрыяльныя палітычныя ўмовы дазвалялі прыватнае фінансаванне і нават дзяржаўную падтрымку падобных ініцыятыў. Аднак па меры ўсталявання аўтарытарнага рэжыму ўнутранае фінансаванне і тым больш падтрымка з боку дзяржавы сталі фактычна немагчымымі. Беларуская дыяспара таксама дапамагае ў фінансаванні праектаў па развіцці беларускай грамадзянскай супольнасці, аднак гэтая падтрымка задавальняе толькі невялікую частку агульных патрэбаў. Усё гэта чыніць перашкоды супрацоўніцтву розных інстытутаў, задзейнічаных у сферы нефармальнай адукацыі.[34]

Паводле некаторых экспертаў, кантроль заходніх донараў над адукацыйнымі праектамі замест развіцця адпаведных партнёрскіх адносін спрычыніўся да неэфектыўнасці нефармальнай адукацыі ў Беларусі.[35] Выказваюцца меркаванні, што наяўнасць партнёрскіх адносін, а не сітуацыі кантролю і падначалення, у большай ступені паспрыяла б развіццю грамадзянскай супольнасці ў Беларусі. Падыходы краінаў з развітай дэмакратыяй не абавязкова спрацоўваюць у Беларусі і пры гэтым прымушаюць беларускія арганізацыі кіравацца прыярытэтамі заходніх донараў, замест таго каб прасоўваць уласныя погляды.

[32] Kryvoi, Yaraslau. ‘Minsk Dialogue conference: Belarus to become a regional hub for expert diplomacy’, 23 March 2015, <http://belarusdigest.com/story/minsk-dialogue-conference-belarus-become-regional-hub-expert-diplomacy-22015> [accessed 11 May 2016].

[33] О KEF, <http://kef.research.by/about/ > [Дата доступу – 6 ліпеня 2016 г.].

[34] Вялічка, Улад, 2004. “Нефармальная адукацыя дарослых у беларускім трэцім сектары: асаблівасці развіцця”, *Адукатар*, №. 1, с. 5-6.

[35] Мацкевич, Светлана, 2006. “История и актуалии гражданского образования в Беларуси. Прагматика, парадигматика, синтагматика”, *Адукатар*, № 1 (7), с. 10.

Паводле іншых апытаных прадстаўнікоў сектару нефармальнай адукацыі, ролю донарскіх арганізацый не варта перабольшваць. Па-першае, шмат залежыць ад асобнага канкрэтнага донара, паколькі многія з іх не дыктуюць сваіх умоваў ажыццяўлення праектаў. Па-другое, палітыка донарскіх арганізацый у дадзенай сферы значна змянілася. Заўвагі пра маніпулятыўнае стаўленне і кантроль з боку донарскіх арганізацый былі даволі актуальнымі ў перыяд з 2000 да 2006 года, але нават тады толькі некаторыя заходнія спонсары бралі “актыўны ўдзел” у нефармальных адукацыйных праектах.



Пяты Фестываль нефармальнай адукацыі ў Мінску.
Фота: adukatar.net

Іншым бокам праблемы ёсць тое, што донарскім арганізацыям прасцей ажыццяўляць сваю дзейнасць за межамі Беларусі. Нават для ўдзелу ў базавых трэнінгах навучэнцы едуць у суседнюю Літву ці Польшчу, што абмяжоўвае прастору ўздзеяння праектаў нефармальнай адукацыі.[36] Важна і тое, што донарскія арганізацыі выдзяляюць значныя фінансавыя сродкі ўласна для падтрымкі тых, хто размяркоўвае гранты (імплементатараў). Як правіла, гэта арганізацыі, зарэгістраваныя ў ЕС, узначаленыя грамадзянамі ЕС.

Паколькі арганізацыі атрымліваюць сродкі пераважна для правядзення адукацыйных мерапрыемстваў, семінары часам арганізуюцца выключна для статыстыкі без дасягнення пры гэтым значных вынікаў.[37] Разам з тым такое стаўленне звычайна не датычыць адукацыйных ініцыятыў са спецыялізацыяй у сферы нефармальнай адукацыі, у тым ліку трох вышэйзгаданых арганізацый.

За апошнія гады фінансавая падтрымка беларускай грамадзянскай супольнасці скарацілася, і прадстаўнікі праектаў нефармальнай адукацыі, што ўзялі ўдзел ў інтэрв’ю для дадзенага даследавання, выразна гэта адчулі. Усе тры праекты – Беларускі Калегіум, Лятучы ўніверсітэт і каледж ECLAB – адзначылі недахоп фінансавай падтрымкі ў якасці асноўнай пагрозы іх існаванню. Прадстаўнікі праектаў адмовіліся назваць канкрэтныя лічбы, але падкрэслілі, што ўзровень фінансавання з цяжкасцю дазваляе ім ажыццяўляць дзейнасць у апошнія гады. Праекты ўвесь час мусяць шукаць дадатковую падтрымку і падаваць заяўкі на гранты розных арганізацый. Ні адзін праект не мае доўгачасовай інстытуцыянальнай фінансавай падтрымкі, якая дазволіла б заснаваць пастаянныя адміністрацыйныя пасады і рабіць доўгатэрміновае планаванне.

Па словах удзельнікаў інтэрв’ю, донарскія арганізацыі звычайна чакаюць хуткіх вынікаў, але адукацыя з’яўляецца доўгатэрміновым працэсам, які не прыводзіць да імгнення заўважных дасягненняў. І яшчэ адзін не меней важны аспект – вельмі цяжка знайсці фінансавую падтрымку для даследніцкай дзейнасці, якая грае значную ролю ў прафесійным развіцці навукоўцаў.

Каледж ECLAB з’яўляецца адзіным праектам, які прапаноўвае платную адукацыю, хоць аплата складае толькі невялікую частку бюджэту праекта. Каледж прапаноўвае 20 месцаў для бясплатнага навучання і яшчэ 40 месцаў з аплатай 30 еўра за курс (курс складае 20 акадэмічных гадзін).

Варта адзначыць таксама, што ўсе апытаныя ў інтэрв’ю студэнты пацвердзілі, што гатовыя плаціць унёсак за нефармальныя заняткі. Больш за тое, кіраўнік праекта ECLAB Вольга Шпарага адзначыла, што студэнты, якія аплачваюць навучанне, ставяцца да заняткаў больш сур’ёзна і адказна. Дадзеныя факты паказваюць, што ўвядзенне сістэмы аплаты мала б быць наступным крокам

36 Ibid, c. 12.
37 Ibid,c. 12-13.

для Лятучага ўніверсітэта і Беларускага Калегіума. Гэта стварыла б невялікую, але важную сістэму самафінансавання і павысіла б матывацыю студэнтаў да навучання.

Разам з тым выкарыстанне падобных рынкавых падыходаў патрабуе дадатковых трансфармацый і новых бізнэс-мадэляў. Праектам спатрэбяцца эфектыўныя брэндынгавыя і рэкламныя стратэгіі, арыентацыя на практычныя веды і здольнасць прэзентаваць і прадаць свае прапановы. Таксама відавочна, што некаторыя накірункі (бізнэс, IT, дызайн і інш.) могуць стаць камерцыйна паспяховымі, у той час як іншыя, якія звычайна фінансуюцца дзяржавай ці прыватнымі фондамі, могуць з цяжкасцю разлічваць на аплату.

У 2008–2013 гадах у нефармальнай адукацыі ў Беларусі бралі ўдзел не больш за 100,000 чалавек, ці 1,2% агульнай колькасці насельніцтва

Пошук сродкаў унутры краіны і атрыманне падтрымкі ад бізнэс-колаў і дзяржаўных інстытутаў ускладняецца ўсё яшчэ напружанымі адносінамі і палітызаванасцю ўстаноў нефармальнай адукацыі. Такая сітуацыя склалася не толькі з-за аўтарытарнага палітычнага рэжыму. Нягледзячы на тое, што многія донарскія арганізацыі забяспечылі падтрымку сацыяльных праектаў, дэмакратызацыя і палітычны актывізм часта атрымлівалі болей увагі і рэсурсаў, асабліва ў перыяд з 1997 да 2007 года. Заходнія донары мелі даволі недальнабачны падыход да дэмакратызацыі Беларусі і звычайна акцэнтавалі ўвагу на палітычных пераменах праз змену рэжыму або навучанне палітычных актывістаў і сябраў палітычных партый.

Гэта прывяло да засяроджання сродкаў у палітычным сектары грамадзянскай супольнасці. Аднак гэты падыход стаўся неэфектыўным, бо ўзровень палітычнай актыўнасці паступова знізіўся, нягледзячы на гэтыя намаганні. Тым часам актыўнасць, накіраваная на доўгатэрміновыя перамены, такія як адукацыя і фармаванне ідэнтычнасці, застаюцца недаацэненымі і не атрымліваюць належнага фінансавання. Разам з тым у Беларусі яны падаюцца адзіным шляхам да дэмакратыі, няхай і больш павольным ды меней відавочным, і таму патрабуюць інвестыцый актараў, зацікаўленых у дэмакратызацыі. Апошнім часам падтрымка палітычнай актыўнасці зніжаецца і донары перанакіроўваюць сваю ўвагу на правы чалавека, сацыяльныя і экалагічныя праблемы.

Тым не менш, дзейнасць у праектах, што не з'яўляюцца відавочна палітычнымі, можа мець поспех нават у існуючых умовах. Для гэтага ўстановы нефармальнай адукацыі павінны дакладна акрэсліць сваю нішу, у якой яны могуць паспяхова функцыянаваць і прыносіць карысць грамадству.

## 2.3. Недастатковы ахоп аўдыторыі нефармальнай адукацыі

Па некаторых ацэнках, у 2008–2013 гадах у нефармальнай адукацыі ў Беларусі бралі ўдзел не больш за 100,000 чалавек, ці 1,2% агульнай колькасці насельніцтва, што з'яўляецца вельмі нізкім паказнікам для краіны з насельніцтвам каля 10 мільёнаў чалавек. Прааналізаваныя 40 асноўных устаноў нефармальнай адукацыі забяспечвалі штогод адукацыю толькі некалькіх тысяч чалавек.[38] Тым часам дзяржаўныя ідэалагічныя інстытуты ахопліваюць каля 70% моладзі і 40% эканамічна актыўнага насельніцтва.[39]

Кіраўнікі аналізаваных тут ініцыятыў адзначылі дасягненне мэтавай аўдыторыі ў якасці аднаго з галоўных выклікаў. Больш за тое, два з трох апытаных арганi-

[38] Жураковский, Валерий и другие, 2013. "Анализ сектора Республики Беларусь, субъекты которого занимаются гражданским образованием", Офис европейской экспертизы и коммуникации, с. 33.
[39] Ibid, с. 37.

затараў праектаў акрэслілі свае мэтавыя аўдыторыі даволі абагульнена, адзначыўшы, што вітаюць усіх зацікаўленых у навучанні. Больш дакладнае вызначэнне мэтавай аўдыторыі і распрацоўка інструментаў па яе прыцягненні маглі б павысіць абазнанасць грамадства ў іх дзейнасці. Таксама патрэбна паказаць патэнцыйным студэнтам магчымыя выгады ад навучання, практычныя вынікі, якіх яны дасягнуць, і магчымасці ўжывання набытых ведаў у жыцці. Ні адна з ініцыятыў не прадставіла на сваім афіцыйным сайце апісання гэтых рэчаў.

Вэб-старонкі ў сучасным грамадстве сталі візітнай карткай арганізацый, і якасць сайта выступае адным з асноўных фактараў прывабнасці праекта. Студэнты каледжа ECLAB кажуць, што абралі гэты праект часткова з той прычыны, што ён мае добра распрацаваны, сучасна аформлены сайт са структураванай інфармацыяй па ўсіх відах дзейнасці.

Прысутнасць у сродках масавай інфармацыі з’яўляецца асноўным сродкам дасягнення аўдыторыі, і праекты імкнуцца павялічыць сваю заўважнасць. Аднак іх медыяактыўнасць пры гэтым значна адрозніваецца. Параўнанне іх актыўнасці ў сацыяльных сетках і публікацый, што ўтрымліваюць назвы праектаў, сведчыць пра тое, што некаторыя з іх прыкладаюць вялікія намаганні для сваёй рэпрэзентацыі, іншыя ж працуюць у гэтым накірунку меней інтэнсіўна. Дыяграмы ў Дадатку 1 дэманструюць колькасныя дадзеныя анлайн-актыўнасці ініцыятыў за перыяд з 1 верасня 2015 года да 15 красавіка 2016 года.

Тым часам як Лятучы ўніверсітэт і каледж ECLAB маюць даволі высокую актыўнасць у сацыяльных медыя, Беларускі Калегіум значна адстае ў гэтым накірунку. Асабліва вылучаецца колькасць відэа, размешчаных Лятучым універсітэтам на youtube.com.

Выбіраючы паміж адукацыйнымі ініцыятывамі, студэнты маюць недастаткова інфармацыі. Паводле вынікаў інтэрв’ю Беларускі Калегіум з’яўляецца найбольш вядомым праектам, паколькі 10 з 12 апытаных студэнтаў каледжа ECLAB і Лятучага ўніверсітэта чулі пра яго існаванне. Праект ECLAB выявіўся найменей вядомым сярод студэнтаў Лятучага ўніверсітэта і Беларускага Калегіума, нягледзячы на добрую прадстаўленасць у медыя. Разам з тым доля студэнтаў каледжа ECLAB, праінфармаваных адносна двух іншых праектаў, была найбольшай сярод трох груп.

*Табліца 1. Колькасць студэнтаў, што ведаюць/не ведаюць пра іншыя адукацыйныя праекты*

| | **Ведаюць пра БК** | **Не ведаюць пра БК** |
|---|---|---|
| Студэнты Лятучага ўніверсітэта (ЛУ) | 5 | 2 |
| Студэнты ECLAB | 5 | 0 |
| | **Ведаюць пра ЛУ** | **Не ведаюць пра ЛУ** |
| Студэнты Беларускага Калегіума (БК) | 2 | 3 |
| Студэнты ECLAB | 4 | 1 |
| | **Ведаюць пра ECLAB** | **Не ведаюць пра ECLAB** |
| Студэнты Лятучага ўніверсітэта | 1 | 6 |
| Студэнты Беларускага Калегіума (БК) | 0 | 5 |

Адна з праблем ахопу аўдыторыі нефармальнай адукацыі ў Беларусі палягае ў яе празмернай сканцэнтраванасці ў сталіцы. Большасць мерапрыемстваў адбываецца ў Мінску, тым часам як нават абласныя цэнтры з насельніцтвам у некалькі соцень тысяч чалавек практычна не маюць магчымасці паўдзельнічаць у такім навучанні.

Кіраўнікі праектаў адзначаюць недахоп фінансавых і чалавечых рэсурсаў у якасці асноўнай перашкоды для развіцця актыўнасці ў рэгіёнах. Напрыклад, Лятучы ўніверсітэт цягам некалькі гадоў намагаўся заснаваць устойлівыя групы ў Брэсце, Магілёве і Віцебску. Пэўны час у Брэсце і Віцебску два разы ў месяц праводзіліся лекцыі, а ў Магілёве штотыдзень адбываліся заняткі на 5 курсах. У далейшым, аднак, магчымасці для рэгіянальнай актыўнасці зніклі ў сувязі з недахопам мясцовых актывістаў і рэсурсаў.

# 3. Асноўныя дасягненні нефармальнай адукацыі ў Беларусі

## 3.1. Прапанова акадэмічных альтэрнатываў афіцыйнай адукацыі

З канца 1990-х гадоў сацыяльныя і гуманітарныя навукі ў Беларусі зазналі глыбокі заняпад на фоне ўсталявання аўтарытарнага рэжыму. Улады замацавалі ідэалагічны кантроль над універсітэцкімі дысцыплінамі, дзе асаблівую значнасць мае інтэрпрэтацыя палітычных рэалій: паліталогія, гісторыя, сацыялогія, філасофія, журналістыка і эканоміка.[40] У 2000-я гады часцей з’явай сталі звальненні прафесараў і выкладчыкаў універсітэтаў, якія не падзялялі палітычнага курсу ўладаў,[41] таксама ў адукацыйную сістэму былі ўведзеныя гадзіны палітінфармацыі.

Распаўсюджванне недагматычных і непалітызаваных ведаў стала важнай задачай нефармальнай адукацыі ў Беларусі

У такой сітуацыі распаўсюджванне недагматычных і непалітызаваных ведаў стала важнай задачай нефармальнай адукацыі ў Беларусі. Паколькі нефармальная адукацыя не абмяжоўваецца акадэмічнымі праграмамі і ўключае таксама арганізацыі, якія займаюцца правамі чалавека, экалагічнай, сацыяльнай, канфесійнай і іншымі відамі адукацыі,[42] у дадзенай частцы працы будуць разгледжаныя ў асноўным арганізацыі, якія імкнуцца стварыць альтэрнатыву дзяржаўнай вышэйшай адукацыі. Гэтыя ўстановы нефармальнай адукацыі з’яўляюцца таксама месцамі, дзе знаходзяць магчымасць выкладання акадэмікі, звольненыя з універсітэтаў па палітычных прычынах.[43] Маючы вельмі абмежаваныя фінансавыя рэсурсы, асабліва ў параўнанні з дзяржаўнымі ўніверсітэтамі, установы нефармальнай адукацыі змаглі забяспечыць прывабнасць адукацыі па-за межамі дзяржаўных інстытутаў.[44]

У асноўным дасдедаванне аналізуе тры найбуйнейшыя адукацыйныя праекты, якія прапаноўваюць альтэрнатыўныя акадэмічныя праграмы: Беларускі Калегіум, Лятучы ўніверсітэт і Еўрапейскі каледж Liberal Arts у Беларусі (ECLAB).

Беларускі Калегіум быў заснаваны ў 1997 годзе і мае чатыры аддзяленні: журналістыка, найноўшая гісторыя, філасофія і літаратура, еўрапейскія даследа-

[40] Казакевіч, Андрэй, 2011. “Эмпірычныя даследаванні Беларусі дазволяць пераадолець сітуацыю перыферыі”, 13 жніўня, <http://neurope.eu/tables/2011/07/13/andrei_kazakevich_%E2%80%9Cempirychnyya_dasledavanni_belarusi_dazvolyats_peraadolets_situa> [Дата доступу – 15 мая 2016 г.].

[41] Smok, Vadzim, ‘Belarusian Academics Sacked For Writing Books And Fairy Tales’, Belarus Digest, 12 October 2012, <http://belarusdigest.com/story/belarusian-academics-sacked-writing-books-and-fairy-tales-11658.> [accessed 15 May 2016].

[42] Eastern Partnership Civil Society Forum, 2012. ‘Non-formal education for regional democratic transformation’, P. 40, <http://adukatar.net/en/neformal-noe-obrazovanie-dlya-regional-ny-h-demokraticheskih-transformatsij/> [accessed 6 May 2016].

[43] Напрыклад, шэраг выкладчыкаў, звольненых з дзяржаўных універсітэтаў па палітычных прычынах, працуюць на гістарычным аддзяленні Беларускага Калегіума, http://belcollegium.org/departments/history/ [Дата доступу – 15 мая 2016 г.].

[44] Borowska, Paula, ‘Non-Formal Education In Belarus: Unleashing The Civil Society Potential’, 18 November 2014, Belarus Digest, <http://belarusdigest.com/story/non-formal-education-belarus-unleashing-civil-society-potential-20186.> [accessed 10 April 2016].

ванні.[45] План навучання прадугледжвае фіксаваную праграму, і студэнты не могуць самастойна абіраць для сябе курсы. Кожнае аддзяленне звычайна ўключае шмат кароткіх курсаў з мэтай забяспечыць найбольш поўны агляд той ці іншай дысцыпліны. Раней Беларускі Калегіум прапаноўваў двух- і трохгадовую праграму навучання, але зараз паступова ідзе да мадэлі з адным годам навучання. На кожным з аддзяленняў, акрамя аддзялення еўрапеістыкі, прапаноўваюцца як тэарэтычныя, так і практычныя веды, якія студэнты могуць скарыстаць у сваім прафесійным развіцці. Беларускі Калегіум прадугледжвае класічны акадэмічны падыход з выразнымі дысцыплінарнымі межамі.

Лятучы ўніверсітэт быў заснаваны ў 2009 годзе і прапануе навучальныя праграмы двух узроўняў. Першы ўключае шэраг курсаў у сферы гуманітарных навук, у асноўным па гісторыі і філасофіі. Другі ўзровень прадугледжвае чатыры школы для больш прафесійнага навучання: гісторыя ідэй, метадалогія, Вялікае Княства Літоўскае, а таксама сацыяльны і філасофскі аналіз.[46] Студэнты могуць абіраць сабе курсы без абмежаванняў. Лятучы ўніверсітэт спецыялізуецца на эксперыментальным мысленні, чым адрозніваецца ад класічнага падыходу Беларускага Калегіума.

Еўрапейскі каледж Liberal Arts у Беларусі (ECLAB) з'яўляецца найбольш маладой арганізацыяй, заснаванай у 2014 годзе. Ён мае шэсць міждысцыплінарных аддзяленняў у сферы мастацтваў і гуманітарных і сацыяльных навук: сучаснае мастацтва і тэатр; інтэрнэт і грамадства; гендарныя даследаванні; публічная гісторыя; сучаснае грамадства, этыка і палітыка; масавая культура і медыя.[47] Першапачаткова студэнты наведваюць тры ўводныя курсы, якія дапамагаюць ім выбраць пэўнае аддзяленне. Пасля выбару аддзялення прадугледжаны шэсць абавязковых курсаў і тры на выбар.

Студэнты, апытаныя ў інтэрв'ю для дадзенай працы, у асноўным вывучалі гісторыю. Выбар гісторыі быў абумоўлены тым фактам, што гэта адзіная дысцыпліна, у якой ёсць аддзяленні/праграмы ва ўсіх трох адукацыйных праектах. Студэнты адзначалі, што абралі нефармальныя праграмы адукацыі, каб палепшыць свае веды гісторыі Беларусі, якія нельга здабыць з афіцыйнага дыскурсу і фармальнай адукацыі. Студэнты Лятучага ўніверсітэта адзначылі, што альтэрнатыўны падыход да вывучэння гісторыі важны для фармавання гістарычнай памяці, ідэнтычнасці і пачуцця адказнасці перад краінай і грамадствам.

Апытаныя студэнты адзначалі каштоўнасць нефармальнай адукацыі у тым, што выкладчыкі адкрытыя да абмеркавання пытанняў, забароненых у афіцыйных дзяржаўных інстытутах з палітычных ці ідэалагічных прычынаў. Больш за тое, многія выкладчыкі і інтэлектуалы з тых жа прычынаў вымушаныя працаваць па-за межамі афіцыйных навучальных установаў, і таму наведваць іх лекцыі ў дзяржаўных універсітэтах проста немагчыма.

Студэнты Беларускага Калегіума адзначалі вельмі падобныя прычыны – выкладанне гісторыі ў афіцыйных навучальных установах падаецца ім палітызаваным і аднабаковым. Дадаткова студэнты згадалі наяўнасць некаторых метадалогій, што выкладаюцца ў Беларускім Калегіуме, але адсутнічаюць у афіцыйных універсітэцкіх праграмах.

Студэнты каледжа ECLAB з'яўляліся прадстаўнікамі розных аддзяленняў і апроч згаданай ужо неідэалагізаванасці нефармальнай адукацыі адзначалі атрыманне новых навыкаў і структурызацыю ведаў, набытых раней, а таксама камунікацыю з новымі цікавымі людзьмі у якасці пераваг нефармальнай адукацыі.

---

45 Аддзяленні Беларускага Калегіума, <http://belcollegium.org/departments//> [Дата доступу – 10 красавіка 2016 г.].

46 Навучальная праграма Лятучага ўніверсітэта на 2015–2016 гг., <http://fly-uni.org/content/adukacyynaya-pragrama-2015-2016-god> [Дата доступу – 10 красавіка 2016 г.].

47 Канцэнтрацыі ECLAB, <http://eclab.by/concentrations> [Дата доступу – 10 красавіка 2016 г.].

## 3.2. Фармаванне ідэнтычнасці

Некаторыя актывісты сектару нефармальнай адукацыі сцвярджаюць, што дэмакратычныя інстытуты ў Беларусі павінны будавацца без адсылак да індэнтычнасці і мовы, аднак многія беларускія інтэлектуалы мяркуюць, што ўмацаванне нацыянальнай ідэнтычнасці і развіццё беларускай мовы ў рэчышчы заходняй цывілізацыі паспрыяюць пабудове дэмакратычных інстытутаў і грамадзянскіх свабодаў.[48] Іншыя лічаць, што абодва працэсы павінны развівацца паралельна для дасягнення максімальнага эфекту.[49]

Праекты нефармальнай адукацыі адыгрываюць ролю транслятараў нацыянальнай і еўрапейскай ідэнтычнасці

Як адзначае Уладзімір Мацкевіч, быць еўрапейцам не азначае проста жыць у Еўропе, але таксама мець еўрапейскую ідэнтычнасць, адносіць сябе ці да еўраскептыкаў, ці да еўрапрыхільнікаў.[50] Улады, аднак, спрабуюць далей развіваць савецкія традыцыі, захоўваць статус-кво замест рэформаў, і бачаць прыярытэтам адносіны з Расіяй, а не з Еўрапейскім саюзам. Нефармальная адукацыя з'яўляецца адным з нешматлікіх сродкаў, з дапамогай якога беларуская грамадзянская супольнасць можа ўмацоўваць беларускую ідэнтычнасць і рабіць яе больш прывабнай.

Аргумент палягае ў тым, што калі Беларусь жадае захаваць сябе як сучасную нацыю, яна мусіць найперш сфармаваць нацыянальную ідэнтычнасць, і толькі пасля пераходзіць да наступных крокаў – інтэграцыі або з Еўразійскім саюзам, дзе дамінуе Расія, або з Еўрапейскім саюзам.[51] Некаторыя апісваюць гэты канфлікт ідэнтычнасцяў як канфлікт між нацыянальным і "крэольскім" праектамі, першы з якіх паўстае на грунце ўласнай гістарычнай спадчыны і культурных дасягненняў, а другі – на прысваенні здабыткаў суседніх культур. Яны сцвярджаюць, што нацыянальная самаідэнтыфікацыя вядзе да развіцця актыўных грамадзянскіх поглядаў.[52]

З гэтай прычыны лічыцца, што грамадзянская супольнасць у Беларусі павінна развіваць новую беларускую грамадзянскую ідэнтычнасць на нацыянальным падмурку, аддаючы ўвагу вывучэнню беларускай гісторыі, больш шырокаму ўжыванню беларускай мовы і разуменню асаблівасцяў, якія адрозніваюць Беларусь ад іншых краінаў. Паводле экспертаў у сферы адукацыі, у Беларусі застаецца незадаволеным попыт на беларускамоўную адукацыю.[53] Па выніках даследавання, каля паловы насельніцтва Беларусі не мае ўмоваў для выкарыстання беларускай мовы.[54]

Ва ўмовах, калі дзяржава робіць зусім мала для фармавання нацыянальнай ідэнтычнасці і да нядаўняга часу хутчэй праводзіла выразную палітыку русіфікацыі, праекты нефармальнай адукацыі адыгрываюць ролю транслятараў нацыянальнай і еўрапейскай ідэнтычнасці.

---

48 Кузмініч, Ігар, 2009. "Нацыянальная свядомасць і грамадзянская адукацыя", *Адукатар*, № 12, с. 16-20.

49 Мацкевич, Владимир. "Беларусизация: рамки и содержательное наполнение. Историческая детерминация", <http://methodology.by/?p=4194> [Дата доступу – 05 мая 2016 г.].

50 "Наша задача – запустить процесс...", 2007. *Адукатар*, № 12, с. 4.

51 Ibid, с. 5-6.

52 Кузмініч, Ігар, 2009. "Нацыянальная свядомасць і грамадзянская адукацыя", *Адукатар*, №2 (12), с. 17.

53 Дунаев, Владимир, 2009. "Перспективы создания независимого университета в Беларуси", *Адукатар*, №. 16, с. 19.

54 Будзьма Беларусамі, 2012. "Беларуская мова – мова эліты і апазіцыі", 31 мая 2012 г., <http://budzma.org/news/belaruskaya-mova-mova-elity-i-apazicyi.html> [Дата доступу – 10 мая 2016 г.].

## 3.3. Папулярызацыя дэмакратычных каштоўнасцяў

Нягледзячы на тое, што беларускае грамадства з'яўляецца адносна аднародным паводле этнічнага і расавага складу (больш за 80% жыхароў з'яўляюцца беларусамі), беларусы не маюць адзінства ў базавых каштоўнасцях. Адна частка грамадства выступае за моцную дзяржаўную ўладу і не бачыць асаблівай грамадскай каштоўнасці ў дэмакратыі і рынкавай эканоміцы. Яна лічыць, што Беларусь павінна будаваць больш цесныя адносіны з Расіяй, і з асцярогай ставіцца да заходніх краінаў.[55]

Другая частка падтрымлівае дэмакратызацыю, інтэграцыю з Еўрапейскім саюзам і эканамічную лібералізацыю. Асноўнай задачай шматлікіх нефармальных адукацыйных інстытутаў у Беларусі з'яўляецца павелічэнне колькасці людзей з дэмакратычнымі поглядамі, а таксама забеспячэнне людзей ведамі, патрэбнымі для жыццядзейнасці ў сучасным грамадстве.[56]

З прычыны ўнікальнасці сённяшняй палітычнай сітуацыі ў Беларусі аформіліся два базавыя падыходы да мэтаў і прынцыпаў дэмакратычнай грамадзянскай адукацыі: неадкладныя дзеянні і доўгатэрміновая праца.

Прыхільнікі неадкладных дзеянняў мяркуюць, што ў сучасных умовах немагчыма ажыццявіць традыцыйныя формы і метады грамадзянскай адукацыі, якія ўзніклі ў краінах з ліберальнымі палітычнымі сістэмамі. У сучаснай Беларусі дзеянні НДА з іх недастатковай інтэнсіўнасцю і сістэматычнасцю не маюць значнага ўплыву на сітуацыю ў грамадстве. Гэта тлумачыцца ціскам на гэтыя арганізацыі з боку дзяржавы, які паралізаваў актыўнасць не толькі ў адукацыйнай сферы, але і ў грамадскім жыцці ў цэлым. Таму грамадзянская адукацыя на дадзеным этапе развіцця Беларусі павінна займацца сацыяльнай і палітычнай актыўнасцю, што дапаможа вярнуць краіну да дэмакратычнага шляху развіцця.[57]



Студэнты Беларускага Калегіума наведваюць прадстаўніцтва ЕС у Беларусі. Фота: belcollegium.org

Прыхільнікі доўгатэрміновага падыходу скіраваныя на глыбокія перамены ў менталітэце і паводзінах беларускіх грамадзян, што павінна стварыць грунт для замацавання дэмакратычных каштоўнасцяў. Пытанне хуткасці рэалізацыі не адыгрывае для гэтага падыходу значнай ролі, і цяперашняя сацыяльна-палітычная сітуацыя ў краіне не мае прыярытэтнага значэння. Прадстаўнікі гэтага падыходу гатовыя далей працаваць у неспрыяльных умовах, паколькі лічаць, што грамадства першапачаткова павінна быць добра падрыхтаваным для пераходу да дэмакратычнага ладу жыцця.[58]

Абагульняючы вышэй сказанае, варта адзначыць, што нефармальная адукацыя ў Беларусі адыгрывае значную ролю ў шэрагу важных сектараў грамадства. Яна спрыяе пашырэнню недагматычных і непалітызаваных ведаў, развіццю альтэрнатыўнай нацыянальнай ідэнтычнасці і замацаванню дэмакратычных каштоўнасцяў ва ўмовах аўтарытарнага палітычнага рэжыму.

---

[55] Гл., напрыклад, апытанне НІСЭПД: "Крызіс скарацій колькасць прыхільнікаў пераменаў", <http://www.old.iiseps.org/12-15-06.html> (Дата доступу – 09 чэрвеня 2016 г.); Дынаміка беларускай грамадскай думкі <http://www.old.iiseps.org/trend.html> [Дата доступу – 09 чэрвеня 2016 г.].

[56] Вялічка,Улад, 2004. "Нефармальная адукацыя дарослых у беларускім трэцім сектары: асаблівасці развіцця", *Адукатар,* № 1, с. 4.

[57] Вялічка, Улад, 2006. "На сучасных ростанях беларускай грамадзянскай адукацыі", *Адукатар*, № 7, с. 14.

[58] Ibid, с. 15.

# 4. Найлепшыя практыкі нефармальнай адукацыі

Якім чынам павялічыць эфектыўнасць нефармальнай адукацыі? Належнае пазіцыянаванне і кіраванне нефармальнай адукацыяй мае вельмі важнае значэнне для любой краіны. Сярод іншага, эксперты рэкамендуюць збліжэнне нефармальнай і фармальнай адукацыі ў межах сістэмы адукацыі, спрыянне міжсектаральнаму супрацоўніцтву, а таксама ўмацаванне супрацоўніцтва паміж рознымі ўзроўнямі сістэмы адукацыі – цэнтральным урадам, дэцэнтралізаванымі органамі ўлады, школамі і супольнасцямі.[59]



Летняя школа Беларускага Калегіума ў Польшчы.
Фота: belcollegium.org

Першыя дзве прапановы асабліва актуальныя для Беларусі і будуць разгледжаныя ў наступным раздзеле. Яны могуць быць дапоўненыя дасягненнямі ў галіне інтэрнэт-тэхналогій, якія становяцца ўсё больш важнымі для чалавечага жыцця, у тым ліку ў сферы адукацыі. У гэтым раздзеле будуць апісаныя некаторыя найлепшыя практыкі іншых краін.

## 4.1. Міжсектаральнае супрацоўніцтва і партнёрства

У Беларусі некаторыя нефармальныя адукацыйныя ўстановы наладзілі партнёрскія адносіны з іншымі НДА і ўніверсітэтамі. Гэта дапамагае ім пашыраць сваю аўдыторыю і распрацоўваць новыя адукацыйныя праграмы.

Напрыклад, у 2011 годзе каардынатар PhD праграмы для Беларусі Інстытут палітычных даследаванняў “Палітычная сфера” стварыў шырокую кааліцыю беларускіх арганізацый дзеля ўстойлівага развіцця і абароны правоў і патрэбаў незалежных экспертных, навуковых і адукацыйных супольнасцяў у Беларусі. У склад аб’яднання ўвайшлі кансорцыум “ЕўраБеларусь”, Лятучы ўніверсітэт, Інстытут палітычных даследаванняў “Палітычная сфера”, Беларускі Калегіум і Беларускі інстытут стратэгічных даследаванняў. Таксама былі наладжаныя партнёрскія адносіны з Варшаўскім універсітэтам (Польшча) і Універсітэтам Вітаўта Вялікага (Літва) для пашырэння магчымасцяў атрымання доктарскай ступені беларусамі.

У 2016 годзе аналітычны цэнтр “Школа маладых менеджараў публічнага адміністравання” (SYMPA) і Дэпартамент сацыяльных і палітычных навук Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта (Вільня, Літва) запусцілі сумесны анлайн-курс пад назвай “Адміністраванне і публічная палітыка: сучасныя практыкі і трансфармацыі”.[60] Ён дапаўняе стандартную праграму SYMPA і адкрыты для тых, хто не можа ўдзельнічаць у курсе ў афлайн-рэжыме. Паколькі ўсе матэрыялы курса даступныя на рускай і беларускай мовах, колькасць прэтэндэнтаў на ўдзел у ім большая, чым на ўласных курсах SYMPA, дзе патрабуецца добрае валоданне ангельскай мовай. На працягу 12 тыдняў удзельнікі вывучаюць тэарэтычныя канцэпцыі і выпадкі з практыкі ў галіне дзяржаўнага кіравання, дзяржаўнай палітыкі, этыкі, празрыстасці, а таксама падыходы да публічнага адміністравання згодна з прынцыпамі гендарнай роўнасці і павагі да правоў чалавека. Студэнты ўдзельнічаюць у анлайн-дыскусіях па кожнай тэме і выконваюць тэсты пад наглядам выкладчыкаў курса.

---

[59] Yasunaga, Mari, 2014. ‘Non-Formal Education as a Means to Meet Learning Needs of Out-Of-School Children and Adolescents’, United Nations Children’s Fund (UNICEF), p. 7.

[60] ‘First graduation of SYMPA/EHU online course’, <http://sympa-by.eu/en/articles/first-graduation-sympaehu-online-course.html> [accessed 16 May 2016].

Нядаўна Лятучы ўніверсітэт запусціў праграму пад назвай “Горад: асяродак, супольнасць, вобраз дзеяння” ў партнёрстве з таварыствам “Зялёная сетка” і альманахам “Гарадскія тактыкі”. Праграма распрацоўвае і папулярызуе сучасныя падыходы да развіцця беларускіх гарадоў і грунтуецца на трох канцэпцыях: гарадскія даследаванні, устойлівае развіццё і ахова навакольнага асяроддзя. Праграма ўключае ў сябе інтэнсіўны тэарэтычны курс з рознымі формамі навучання (тры месяцы), навукова-даследчую практыку (два месяцы), а таксама заключны семінар (тры дні).[61]

## 4.2. Збліжэнне нефармальнай і фармальнай адукацыі

Эфектыўнасць і прывабнасць нефармальнай адукацыі могуць узрасці, калі адпаведныя кваліфікацыі будуць прызнавацца іншымі навучальнымі ўстановамі або дзяржавай, і такім чынам дапамогуць студэнтам на рынку працы.[62] Асноўнымі вынікамі фармальнай валідацыі нефармальнага навучання з’яўляюцца лепш структураваны кар’ерны рост, павышэнне матывацыі, паляпшэнне прафесійнай падрыхтоўкі, а таксама павышэнне агульнага ўзроўню арганізацыі ў цэлым.[63]

> Эфектыўнасць і прывабнасць нефармальнай адукацыі можа ўзрасці, калі адпаведныя кваліфікацыі будуць прызнавацца іншымі навучальнымі ўстановамі або дзяржавай

Такім чынам, акрэдытацыю можна лічыць адным з ключавых інструментаў, які ператварае канцэпцыю бесперапыннай адукацыі ў рэальнасць і дазваляе аб’ядноўваць вынікі навучання з розных кантэкстаў і перыядаў жыцця.[64] У некаторых краінах, такіх як Ірландыя, прафесійная кваліфікацыя можа прысвойвацца на аснове інфармальнага (informal) і нефармальнага (non-formal) навучання без абмежаванняў. У іншых краінах неабходна выканаць дадатковыя патрабаванні, такія як экзамены.[65]

Для таго каб ацаніць эфектыўнасць нефармальнай адукацыі, розныя краіны выкарыстоўваюць адукацыйныя або электронныя партфоліа, імітацыйныя выпрабаванні, анкетаванне або тэставанне ў рэальных жыццёвых сітуацыях. Напрыклад, у Фландрыі (Бельгія) спачатку ацэньваюцца электронныя партфоліа, а потым іх правяраюць у рэальным жыцці. Паколькі нефармальная адукацыя, як правіла, мае больш структураваны характар, выкарыстанне тэстаў і экзаменаў ёсць прыдатным спосабам ацэнкі яе якасці.[66]

У Беларусі тыя, хто паспяхова сканчвае сумесны анлайн-курс школы SYMPA і Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта, які быў часткова распрацаваны неўніверсітэцкімі выкладчыкамі, атрымліваюць тры крэдыты ў сістэме ECTS.[67]

Праграма дактарантуры інстытута “Палітычная сфера” з’ўляецца яшчэ адным добрым прыкладам паспяховага супрацоўніцтва нефармальных і афіцыйных акадэмічных інстытутаў. Беларуская незалежная навукова-даследчая супольнасць, не звязаная з афіцыйнымі беларускімі ўніверсітэтамі, прымае невялікую колькасць студэнтаў, якія жадаюць напісаць доктарскую дысертацыю. Кожны студэнт мае кіраўніка, а таксама ўдзельнічае ў публічных прэзентацыях і абмер-

[61] Адукацыйная школа: “Горад: асяродак, супольнасць, вобраз дзеяння”, <http://fly-uni.org/content/adukacyynaya-shkola-gorad-asyarodak-supolnasc-vobraz-dzeyannya>, [дата доступу: 20 мая 2016 г.].
[62] Werquin, Patrick, 2010. *Recognising Non-Formal and Informal Learning*, OECD, 2010, p. 6 <http://dx.doi.org/10.1787/9789264063853-en>.
[63] Ibid.
[64] Bjornavold, Jens, 2009. ‘Validation of non-formal and informal learning in Europe: key developments and challenges’, *Aukštojo mokslo kokybė*, No. 6, P. 38.
[65] Werquin, Patrick, 2010. *Recognising Non-Formal and Informal Learning*, OECD, p. 6 <http://dx.doi.org/10.1787/9789264063853-en>
[66] Железов, Борис, 2010. “Анализ политики стран-членов ОЭСР в области признания результатов нефармального и информального образования”, *Вестник международных организаций*, № 27, с. 51-62.
[67] ‘First graduation of SYMPA/EHU online course’, <http://sympa-by.eu/en/articles/first-graduation-sympaehu-online-course.html> [accessed 16 May 2016].

каваннях прагрэсу напісання працы на рэгулярнай аснове. У гэтых мерапрыемствах удзельнічаюць адмыслоўцы ў галіне адпаведнай дысертацыі, а таксама іншыя студэнты праграмы. Пасля таго, як студэнт скончыў працу над сваёй доктарскай дысертацыяй, ён рыхтуецца да яе абароны ў партнёрскім універсітэце ў Еўрапейскім саюзе.

## 4.3. Навучанне практычным навыкам

Дзяржаўная сістэма вышэйшай адукацыі ў Беларусі ў многіх аспектах адарваная ад рэальных патрэбаў рынку, таму нефармальная адукацыя можа запоўніць гэты прагал.[68] Дапамога ў засваенні новых навыкаў выглядае лагічнай мэтай для ўстаноў нефармальнай адукацыі.

Савет Еўропы вызначыў восем ключавых кампетэнцый, неабходных асобе для самарэалізацыі, фармавання актыўнай грамадзянскай пазіцыі, сацыяльнай інтэграцыі і развіцця.[69] Яны ўключаюць здольнасць камунікаваць на роднай і замежных мовах; базавыя навыкі ў матэматыцы і тэхналогіях; кампутарную пісьменнасць; уменне навучацца; сацыяльную і грамадзянскую дасведчанасць; пачуццё ініцыятывы і прадпрымальніцтва; а таксама культурную дасведчанасць і здольнасць выяўляць сябе ў культурнай сферы.

НДА ў Беларусі ў большай ступені займаюцца грамадзянскай адукацыяй, сацыяльнымі паслугамі і ўстойлівым развіццём, чым развіццём асабістых навыкаў і кваліфікацый, звязаных з эканамічнай дзейнасцю і канкурэнтаздольнасцю

Можна сцвярджаць, што сацыяльныя і грамадзянскія кампетэнцыі, а таксама імкненне да актыўнага ўдзелу ў дэмакратычным працэсе патрабуюць асаблівай увагі ў Беларусі з улікам яе цяжкай постсавецкай спадчыны. Грамадзянскія кампетэнцыі грунтуюцца на веданні паняццяў дэмакратыі, справядлівасці, роўнасці, грамадзянства і грамадзянскіх правоў:

> Навыкі ў сферы грамадзянскіх кампетэнцый звязаныя са здольнасцю эфектыўна ўзаемадзейнічаць з іншымі ў публічнай сферы і дэманстраваць салідарнасць і зацікаўленасць у вырашэнні праблем, якія ўплываюць на мясцовыя і шырэйшыя супольнасці. Яны ўключаюць крытычную і творчую рэфлексію, а таксама канструктыўны ўдзел як у дзейнасці супольнасцяў, так і ў прыняцці рашэнняў на ўсіх узроўнях: ад мясцовага да нацыянальнага і еўрапейскага, у прыватнасці шляхам галасавання.[70]

Пасля дзесяцігоддзяў каманднай эканомікі і ва ўмовах, калі дзяржава па-ранейшаму дамінуе ў многіх сектарах беларускай эканомікі, беларусам таксама патрэбныя прадпрымальніцкія навыкі, вызначаныя Еўрапейскім Саветам наступным чынам:

> Пачуццём ініцыятывы і прадпрымальніцтва называецца здольнасць індывіда ператвараць ідэі ў дзеянні. Яно ўключае творчасць, наватарства і гатовасць рызыкаваць, а таксама здольнасць планаваць і кіраваць праектамі для вырашэння задач. Яно дапамагае індывідам не толькі ў іх паўсядзённым жыцці і ў грамадстве, але і на працоўным месцы ўсведамляць кантэкст іх працы і быць здольнымі скарыстацца магчымасцямі; яно з’яўляецца базай для больш вузкіх навыкаў і ведаў, неабходных тым, хто арганізуе або ўдзельнічае ў грамадскай або камерцыйнай дзейнасці.[71]

[68] “Адукацыя, навучанне, асвета ў трэцім сектары: стан і перспектывы развіцця”, 2005, *Адукатар*, № 4, с. 3.

[69] European Council, 2006. ‘Recommendation of the European Parliament and the Council of 18 December 2006 on Key Competencies for Lifelong Learning’, Official Journal of the European Union, P. 10–18 <http://eur-lex.europa.eu/LexUriServ/LexUriServ.do?uri=OJ:L:2006:394:0010:0018:en:PDF>.

[70] Ibid.

[71] Ibid.

Іншыя навыкі, неабходныя ў Беларусі, уключаюць крытычнае мысленне, здольнасць шукаць і знаходзіць праўдзівую інфармацыю ва ўмовах дзяржаўнай прапаганды, моўныя кампетэнцыі, каб выйсці за рамкі рускамоўнай інфармацыйнай сферы, культурную самаідэнтыфікацыю, а таксама імунітэт да спробаў падзелу грамадства.[72]



Шосты Фестываль нефармальнай адукацыі ў Мінску.
Фота: adukatar.net

Варта адзначыць, што НДА ў Беларусі ў большай ступені займаюцца грамадзянскай адукацыяй, сацыяльнымі паслугамі і ўстойлівым развіццём, чым развіццём асабістых навыкаў і кваліфікацый, звязаных з эканамічнай дзейнасцю і канкурэнтаздольнасцю.[73] У той жа час установы нефармальнай бізнэс-адукацыі, як правіла, скіраваныя на менеджараў, якія ўжо працуюць, і выстаўляюць такія цэны за свае паслугі, якія звычайныя беларусы наўрад ці могуць сабе дазволіць.[74] У Беларусі дзяржава цалкам дамінуе ў сектары фармальнага павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі, у якой удзельнічае каля 530,000 чалавек штогод. Тым не менш, дзяржаўная сістэма мае істотныя недахопы: яна адстае ад сучасных тэндэнцыяў і тэхналогіяў, з’яўляецца занадта кансерватыўнай, аддае прыярытэт тэорыі над практыкай і г.д.[75]

## 4.4. Выкарыстанне новых тэхналогій

Традыцыйныя педагогі ўсё часцей адчуваюць патрэбу ў выкарыстанні Інтэрнэту і мабільных тэхналогій ў сваёй працы. Паколькі новыя сродкі масавай інфармацыі не кантралююцца дзяржавай, маладое пакаленне мае больш магчымасцяў данесці сваё паведамленне розным аўдыторыям. Велізарны аб’ём інфармацыі ўяўляе сабой значны выклік для навучальных установаў.[76]

Нягледзячы на тое, што ў Беларусі нефармальная адукацыя лічыцца актыўным карыстальнікам інавацыямі,[77] насамрэч не так шмат робіцца, каб павялічыць прысутнасць адукацыйных прапаноў анлайн і пашыраць дыстанцыйнае навучанне. Эксперты адзначаюць “несуцяшальна нізкі ўзровень развіцця дыстанцыйнага навучання і адносна высокі попыт на электроннае навучанне сярод беларускай моладзі”.[78]

У выніку ўзнікнення адкрытых адукацыйных рэсурсаў і развіцця Web 2.0 у першым дзесяцігоддзі XXI стагоддзя шырокае распаўсюджванне атрымалі масавыя адкрытыя анлайн-курсы (МААК).[79] Узнікненне МААК у галіне нефармальнай адукацыі зрабіла мэтанакіраванае стварэнне адкрытых адукацыйных рэсурсаў навучэнцамі ключавым інструментам адукацыі. МААК заснаваныя на актыўным удзеле неабмежаванай колькасці ўдзельнікаў у самаарганізавальным працэсе дыстанцыйнага навучання, які спалучае ў сабе ўзаемадзеянне ў рамках сацыяльных медыя, водгукі экспертаў, а таксама доступ да стварэння адкрытых адукацыйных рэсурсаў.

---

72 Мацкевіч, Тамара, 2012. “Грамадзянскія кампетэнцыі: што трэба ведаць беларусу, каб стаць грамадзянінам”, *Адукатар*, № 22, с. 19.

73 Карпиевич Д., Усатенко Г. и другие, 2012. *Неформальное образование для региональных демократических трансформаций*, Европейский фонд, Киев, с. 43-44.

74 Ibid, c. 48-49.

75 Ibid, c. 54-55.

76 Kiilakoski, Tomi, 2015. ‘Youth work and non-formal learning in Europe’s education landscape and the call for a shift in education’, in Youth work and non-formal learning in Europe’s education landscape, European Comission, P. 30-31.

77 Карпиевич, Дмитрий, 2009. “Субъекты неформального образования: ключевые игроки и возможные направления для сотрудничества”, *Адукатар*, № 16, с. 9.

78 Дунаев, Владимир, 2009. “Перспективы создания независимого университета в Беларуси”, *Адукатар*, №. 16,с. 18.

79 Ibid, c. 4-5.

У адным з даследаванняў прапанавалася арганізаваць кароткія курсы на аснове прынцыпаў МААК з невялікай колькасцю ўдзельнікаў і кароткай працягласцю. Актыўны ўдзел у адным з курсаў уключаў прагляд вэбінараў, вывучэнне і абмеркаванне прапанаванага матэрыялу, індывідуальны пошук дадзеных у дадатковых крыніцах, стварэнне нататак і фармуляване думак у асабістых блогах, а таксама чытанне і абмеркаванне запісаў у блогах аднакласнікаў. Акрамя блогаў, былі арганізаваныя дыскусіі праз Skype і Google +.[80]

Мабільныя прылады, у прыватнасці смартфоны і планшэты, уяўляюць сабой вельмі зручны спосаб інтэграцыі лічбавых тэхналогій у навучальны працэс. Хуткае распаўсюджанне такіх прылад сярод навучэнцаў азначае, што доступ да анлайн-кантэнту, асабліва праз мабільныя дадаткі, павялічвае іх патэнцыял для навучання. У 2015 годзе ў такіх крамах дадаткаў, як Google Play і ITunes, было даступна для загрузкі прыкладна 1,5 млн розных дадаткаў, таму ўстановы, выкладчыкі і студэнты маюць магчымасць карыстацца новымі формамі навучання з дапамогай мабільных прыладаў і тэхналогій.[81]

Масавыя адкрытыя анлайн-курсы, мабільныя прылады, “перакуленыя класы” і лічбавыя значкі выглядаюць перспектыўнымі інавацыямі для беларускай нефармальнай адукацыі

Канцэпцыя “перакуленага класа” (flipped classroom) набывае ўсё большую папулярнасць у розных адукацыйных установах. “Перакулены клас” – гэта ўнікальнае адукацыйнае асяроддзе, дзе студэнты вывучаюць змест курса (праз анлайн-відэа, матэрыялы і г.д.) да прыходу ў клас, дзе яны потым праводзяць большую частку часу, каб задаваць пытанні і ўдзельнічаць у інтэрактыўных дыскусіях.[82] Поспех гэтай мадэлі тлумачыцца тым, што яна дапамагае спалучаць тэхналогіі змяшанага навучання і традыцыйную школьную практыку, і мае вялікі патэнцыял для ўключэння ў нефармальнае навучанне.

Лічбавы значок (digital badge) – анлайн-пацверджанне набытага навыку – становіцца новым анлайн-стандартам для прызнання і праверкі ведаў.[83] Лічбавыя значкі дазваляюць правяраць веды, інтарэсы і дасягненні праз арганізацыі, вартыя даверу. Напрыклад, значкі Open Badges ад Mozilla не з’яўляюцца чыёйсьці ўласнасцю – яны выкарыстоўваюць свабоднае праграмнае забеспячэнне і адкрыты тэхнічны стандарт. Гэта азначае, што любая арганізацыя можа ствараць, выпускаць і правяраць лічбавыя значкі, і любы карыстальнік можа атрымліваць, кіраваць і паказваць гэтыя значкі ў сеціве.

Сучасныя тэхналогіі прапануюць мноства іншых інструментаў, якія могуць зрабіцца часткай нефармальнага навучання і пашырыць сферу яго выкарыстання і ступень уплыву. Масавыя адкрытыя анлайн-курсы, мабільныя прылады, “перакуленыя класы” і лічбавыя значкі выглядаюць перспектыўнымі інавацыямі для беларускай нефармальнай адукацыі і патрабуюць увагі з боку адукацыйных арганізацый.

80 Ibid, c. 9-13.
81 Bárcena, E. et al. (2015). ‘State of the art of language learning design using mobile technology: sample apps and some critical reflection’, in F. Helm, L. Bradley, M. Guarda, & S. Thouësny (Eds), Critical CALL – Proceedings of the 2015 EUROCALL Conference, Padova, Italy (pp. 36-43), Dublin: Research-publishing.net, p. 37.
82 Ibid, c. 38.
83 Гл. Mozilla Open Badges, http://openbadges.org/about/

# 5. Рэкамендацыі

Будучыня нефармальнай адукацыі ў Беларусі павінна будавацца на аснове найлепшых практык, але з улікам асаблівасцяў Беларусі.

## • Развіццё практычных навыкаў

Многія беларускія спецыялісты ў сферы адукацыі мяркуюць, што стратэгія развіцця нефармальнай адукацыі ў Беларусі павінна прадугледжваць тры паслядоўныя этапы: дэсаветызацыя, беларусізацыя і еўрапеізацыя.[84] Тым не менш, важна таксама развіваць навыкі, якія дазволяць людзям паспяхова дзейнічаць ва ўмовах рынкавай эканомікі. Паводле аднаго з сацыялагічных апытанняў, асноўнай матывацыяй для ўдзелу ў адукацыйных ініцыятывах з'яўляецца прафесійны інтарэс (51,1%), у той час як больш за траціну апытаных (36,6%) імкнуцца пашырыць свае гарызонты, і яшчэ траціна (34%) хочуць атрымаць магчымасць мець зносіны з цікавымі людзьмі.[85] Разам з грамадзянскім удзелам нефармальная адукацыя павінна спрыяць развіццю прадпрымальніцкіх навыкаў, творчасці, здольнасцяў да інавацый і рызык, а таксама навыкаў планавання і кіравання праектамі для дасягнення пастаўленых мэтаў.

## • Увядзенне новых бізнэс-мадэляў

Плата за курсы, якія прапануюць практычныя навыкі, можа дапамагчы ўстановам нефармальнай адукацыі часткова вырашыць адну з сваіх галоўных праблем – недахоп сродкаў. Увядзенне рынкавых падыходаў патрабуе дадатковых пераўтварэнняў і засваення бізнес-мадэляў. Праекты павінны мець эфектыўныя стратэгіі брэндынгу і рэкламы, арыентавацца на практычныя веды і быць здольнымі прадставіць і прадаць свае прапановы.

## • Навучанне выкладчыкаў

Паводле аднаго з меркаванняў, да асноўных патрэбаў НДА ў галіне грамадзянскай адукацыі ў Беларусі належыць патрэба ў большай колькасці і лепшай якасці прафесійных настаўнікаў, паляпшэнне арганізацыйнага развіцця НДА і сетак грамадзянскай адукацыі, асабліва на рэгіянальным узроўні.[86] Вось чаму неабходна аддаваць прыярытэт эфекту множання; больш увагі павінны атрымлiваць тыя, хто можа распаўсюджваць веды і навыкі і мае доступ да больш шырокай аўдыторыі. Да гэтах групаў належаць школьныя настаўнікі, універсітэцкія выкладчыкі, сацыяльныя работнікі, лекары і гэтак далей.[87]

## • Паляпшэнне маркетынгу

Апытанне, праведзенае на 5-м Фестывалі нефармальнай адукацыі, паказала, што адным з галоўных прыярытэтаў нефармальнай адукацыі павінна быць больш актыўная праца са сродкамі масавай інфармацыі, каб зрабіць яе больш папулярнай, растлумачыць яе карысць для дзяржавы, а таксама павысіць узровень прафесіяналізму беларускіх адукатараў.[88] Сёння эфектыўная стратэгія медыя-рэпрэзентацыі грае вырашальную ролю ў пашырэнні адукацыйных праектаў. Сучасны, добра структураваны вэб-сайт і актыўныя рахункі ў сацыяльных сетках з'яўляюцца абавязковымі для любога праекта, які імкнецца зацікавіць маладое пакаленне.

---

84 Калитеня, Леонид, 2012. "Перезагрузка гражданского образования, краткое осмысление программы "Гражданственность.by"", *Адукатар,* № 22, с. 22-23.

85 Никулина, Юлия и Рябова, Наталья, 2010. "Дополнительное образование взрослых: готова ли система образования ответить на новый запрос общества?", *Адукатар*, № 18, с. 17.

86 Жураковский, Валерий и другие, 2013. "Анализ сектора Республики Беларусь, субъекты которого занимаются гражданским образованием", Офис европейской экспертизы и коммуникации, с. 45.

87 Чернов, Виктор, 2004. "Региональные учительские инициативы как субъект гражданского образования в Беларуси", *Адукатар,* № 2, с. 19.

88 Руд, Ольга, 2015. "Отчет по результатам анкетирования участников V Фестиваля неформального образования. Краткие результаты исследования", *Адукатар,* № 24-25, с. 2.

Больш дакладнае вызначэнне мэтавай аўдыторыі і распрацоўка інструментаў для яе дасягнення дапамогуць зрабіць прапановы нефармальнай адукацыі больш вядомымі ў грамадстве. Адмыслоўцы-практыкі таксама павінны паказваць, якую выгаду атрымаюць студэнты ад заняткаў, якіх практычных вынікаў дасягнуць і як яны змогуць скарыстаць гэтыя веды ў жыцці.

## • Стварэнне партнёрстваў

Нефармальныя адукацыйныя ўстановы могуць павысіць свой патэнцыял шляхам наладжвання эфектыўнага партнёрства з дзяржаўнымі ўстановамі, НДА і бізнэсам. Нягледзячы на тое, што беларуская дзяржава застаецца даволі неахвотным і насцярожаным партнёрам, апошнія падзеі паказваюць, што ўлады становяцца ўсё больш адкрытымі для ўзаемадзеяння з грамадзянскай супольнасцю ў галінах, якія ўяўляюць узаемную цікавасць.



Заняткі ў ECLAB. Фота: ECLAB facebook

## • Прызнанне кваліфікацый

Нягледзячы на тое, што прызнанне нефармальнай адукацыі беларускімі ўладамі ці вышэйшымі навучальнымі ўстановамі ў Беларусі па-ранейшаму застаецца праблемай па палітычных прычынах, варта разглядаць магчымасць такога прызнання навучальнымі ўстановамі за мяжой, асабліва тымі, што маюць праграмы, звязаныя з Беларуссю. Пасведчанне аўтарытэтнай вышэйшай навучальнай установы можа мець большы прэстыж, чым проста факт наведвання нефармальных курсаў.

## • Выкарыстанне новых тэхналогій

З улікам таго, што Беларусь з’яўляецца адным з лідараў афшорнай распрацоўкі праграмнага забеспячэння[89] і характарызуецца адным з найвышэйшых узроўняў распаўсюджання шырокапалоснага Інтэрнэту ў Еўропе[90], для адукацыйных праектаў было б лагічна выкарыстоўваць Інтэрнэт і новыя тэхналогіі ў сваёй працы. Тэхналогіі маглі б сыграць асабліва важную ролю ў фармаванні партнёрскіх адносін з універсітэтамі ў Еўрапейскім саюзе, якія маглі б прызнаваць веды, атрыманыя ў Беларусі, нават калі афіцыйныя беларускія ўніверсітэты не хочуць рабіць гэтага па ідэалагічных ці іншых прычынах. Лічбавыя значкі таксама могуць быць карыснымі ў галіне нефармальнай адукацыі як форма прызнання вынікаў навучання і прыцягнення працадаўцаў і працаўнікоў па-за межамі сістэмы фармальнай адукацыі.

---

89 Belarus is Ahead of India and the USA in Computer Services Exports per Capita, <http://www.park.by/post-819/>, [accessed 19 May 2016].

90 2014 International Telecommunications Union, ‘ICT Facts and Figures 2014’, <https://www.itu.int/en/ITU-D/Statistics/Documents/facts/ICTFactsFigures2014-e.pdf>, [accessed 19 May 2016].

# Пра аўтараў

**Яраслаў Крывой** – заснавальнік Цэнтра Астрагорскага, прафесар універсітэта Вэст Лондан (University of West London) і сябар Акадэміі вышэйшай адукацыі (FHEA). Выпускнік Гарвардскай школы права, працаваў у міжнародных юрыдычных фірмах і выкладаў права ў Вялікабрытаніі, Расіі, Беларусі, Шры-Ланцы, Японіі ды Злучаных Штатах Амерыкі больш за дзесяць гадоў. Паходзіць з Мінску. Вэбсайт Яраслава – www.kryvoi.net. Галіны экспертызы: адукацыя, міжнароднае публічнае права, вырашэнне камерцыйных спрэчак, бізнэс-клімат.

**Вадзім Смок** – каардынатар праектаў і аналітык Цэнтра Астрагорскага, даследчык інстытута “Палітычная сфера”. Таксама з’яўляецца каардынатарам праграмы “Еўрапейскія даследаванні” Беларускага Калегіума. Паходзіць з Гродна, цяпер жыве ў Мінску. Вадзім атрымаў бакалаўрскую і магістарскую ступені ў галіне палітычных навук у Еўрапейскім гуманітарным універсітэце ў Вільні. Яго даследчыя інтарэсы ўключаюць параўнальную паліталогію, палітычныя інстытуты, мясцовую і рэгіянальную палітыку, а таксама нацыянальную ідэнтычнасць.

# Пра Цэнтр Астрагорскага

Цэнтр Астрагорскага – прыватная некамерцыйная арганізацыя, якая займаецца праблемамі, з якімі сутыкаецца Беларусь у часе свайго пераходу да рынкавай эканомікі і вяршэнства права. Праца цэнтра накіраваная на дасягненне практычных вынікаў.

Цэнтр з’яўляецца першай “фабрыкай думкі”, заснаванай беларусамі, якія атрымалі адукацыю на Захадзе і жывуць у Беларусі і Еўрапейскім саюзе. Аналітыкі, якія працуюць у Мінску, Варшаве, Лондане і Берліне, разумеюць выклікі трансфармацыі ў рэгіёне, бо самі прайшлі праз іх. Атрымаўшы адукацыю ў вядучых універсітэтах свету, эксперты цэнтра выпрацавалі культуру і практычныя здольнасці, неабходныя для аналізу паводле заходніх стандартаў.

Цэнтр мае на мэце папулярызацыю рэформаў і мыслення, якое дапаможа зрабіць эканоміку больш канкурэнтнай, кіраванне больш эфектыўным, а таксама будзе спрыяць інтэграцыі беларускіх навукоўцаў і аналітыкаў у міжнародную навуковую супольнасць.

Інтэрнэт-старонка Цэнтра Астрагорскага – www.ostrogorski.org.

# Дадатак 1. Інфаграфіка

## Дыяграма 1

**Колькасць лайкаў на Facebook, 15 красавіка 2016 года**




Ostrogorski Centre

## Дыяграма 2

**Колькасць падпісчыкаў Vkontakte, 15 красавіка 2016 года**




Ostrogorski Centre

## Дыяграма 3

**Колькасць відэа на Youtube, 15 красавіка 2016 года**




Ostrogorski Centre

## Дыяграма 4

**Колькасць спасылак у медыя, 1 верасня - 15 красавіка 2016 года**




Ostrogorski Centre

